Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 6000 м. п.

# Вольны Сьцяг

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **70.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 10000 мк., сярод тэксту 9000 м. і на 4 стр. 8000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 20. Вільня, Нядзеля, 14-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## Рызыкоуная заява.

У адказ на інтэрпэляцыю паслоў-сацыялістаў на першым-жа засяданьні Сойму сказаў вялікую прамову старшыня польскага ўраду, Вітас.

Ня будзем уваходзіць у ацэнку гэтае прамовы: няхай кожын, чытаючы зьмест яе, сам робіць адпаведныя вывады з заяваў ураду, што палажэньне Польскага гаспадарства запраўды дужа цяжкое, і што ўрад п. Вітаса вывядзе Польшчу з гэтага палажэньня. Затрымаемся затое на адным мамэнце прэм'ерскае прамовы—на тым іменна, дзе п. Вітас закрануў пытаньне аб так-называных „нацыянальных меншасьцях“.

Асудзіўшы зварот беларускіх, украінскіх, літоўскіх, жыдоўскіх і нямецкіх загранічных дзеячоў да Лігі Нацыяў з жалабай на ўціск у Польшчы пералічаных пяцёх нацыянальнасьцяў, п. Вітас меў адвагу ў тэй-жа самай соймавай залі, у якой паслы „меншасьцяў“ абвяшчалі з трыбуны нялічаныя факты сыстэматычнага, пляновага ўціскаНьня прадстаўнікамі ўлады гэтых-жа „меншасьцяў“, сказаць даслоўна гэтак:

„Нацыянальныя меншасьці ў Польшчы, якія *карыстаюцца поўнай свабодай канстытуцыйных правоў і апекай ураду*, выступілі заграніцай з абвінавачаньнямі, каб выставіць Польшчу ў благім асьвятленьні. Пры гэтым *яны забываюцца, што ня маюць дзеля гэтага повадаў, бо ўрад паступае з імі згодна з загадамі Канстытуцыі*, і што істнуе вялікая розьніца паміж адносінамі ў сумежных гаспадарствах да палякоў, якія там зьяўляюцца меншасьцяй, і адносінамі да нацыянальных меншасьцяў у Польшчы“.

Што гэта: *кепскі жарт, ці насьмешка* над „меншасьцямі“ і над даўно ўжо перастаўшай быць наіўнай Эўропай?!

Канстытуцыя Польшчы загадывае, каб пачаткавую навуку дзеці „меншасьцяў“ мелі ў роднай мове.—Дзе-ж такія школы для беларускіх дзяцей?!

Канстытуцыя загадывае, каб урад дапамагаў сярэднім школам „меншасьцяў“. — Дзе і якая беларуская гімназія атрымлівае хоцьбы адну польскую марку ад польскага ўраду?!

Канстытуцыя загадывае, каб усе грамадзяне Польшчы карысталіся роўнымі правамі, бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры. — Дзе п. Вітас можа паказаць хоць аднаго беларуса на адказным становішчы ў адміністрацыі?!

Дзе зямля для беларускай вясковай беднаты?!

Дзе помач дзеля адбудовы для беларускіх бежанцаў, што, вярнуўшыся ў Бацькаўшчыну, дагэтуль крыюцца ў зямлянках?!

Дзе выбарныя самаўрады ў Заходняй Беларусі?!

Дзе гэтая роўнасьць перад законам?!...

„Урад апякуецца меншасьцямі“, — кажа п. Вітас.

Так, беларускай інтэлігенцыяй, беларускімі грамадзкімі дзеячамі „апякуецца“... паліцыя—ў тым значэньні, як яшчэ нядаўна зусім адкрыта дамагаўся таго адзін з органаў урадовае большасьці, „Gazeta Poranna“.... Аб апецы-ж над беларускімі народнымі масамі і гаварыць ня будзем: аб ёй „намацальна“ ведае кожын беларускі селянін і работнік, кожын беларускі народны вучыцель, галадаючы без заробку, бо беларускіх школ няма....

Адно толькі з прамовы п. Вітаса аб „меншасьцях“ можам падцьвярдзіць, як *бясспрэчную праўду*: гэта—яго словы аб розьніцы паміж адносінамі Польшчы да яе „меншасьцяў“ і адносінамі суседзяў да польскае меншасьці ў іх. Запраўды, розьніца тут вялізарная. І мы глыбока перакананы, што, калі-б да беларусаў Польшча адносілася *хацябы так*, як да польскага насяленьня адносяцца Латвія, Літва, Нямеччына, або Радавыя Рэспублікі, дык ні ў каго з загранічных беларусоў не паднялася-бы рука пісаць жалабы на Польшчу ў Лігу Нацыяў... І ня прыйшлося-бы цяпер п. Вітасу жаліцца на тыя „труднасьці“, якія вынікаюць для Польшчы ў Лізе Нацыяў з прычыны розьніц у „тлумачэньні трактатаў аб меншасьцях“, прыкладам, адносна да „атрымліваньня польскага абыватэльства з моцы самога права“....

Прэм'ер закончыў сваю прамову заявай, што ён „ня мае нічога проці таго“, што часьць прэсы выступае з вострай крытыкай сучаснага ўраду, — абы толькі ад гэтага не рабілася шкода гаспадарству. І мы, даючы тут крытыку прамовы п. Вітоса, зусім ня зьбіраемся нанасіць удары Польскай дзяржаве: наадварот, мы думаем, што зрабілі-б ёй услугу, калі-б п. Вітас, прачытаўшы гэтыя радкі, устрымліваўся-бы ў будучыне ад *рызыкоўных заяваў*, падобных да вышэй прыведзенай, якой *кожным сваім крокам і кожным сваім словам пярэчыць польская ўрадовая палітыка і—эндэцкая прэса!*

**Лаўрыновіч.**

## Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі у Вільні.

Сягоньня, 14-га кастрычніка, Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі, п. Вайцехоўскі, прыяжджае ў Вільню, сталіцу Заходняе Беларусі.

У сувязі з гэтым нам успамінаецца адно выступленьне п. Прэзыдэнта ў сталіцы адыйшоўшае да Польшчы часткі Горнага Шлёнску, Катавіцах, дзе 17-га чэрвеня г. г. адбывалася сьвяткаваньне першых угодкаў далучэньня гэтае краіны да Польскае Рэспублікі.

На сьвяткаваньні п. Прэзыдэнт Вайцехоўскі сказаў пекную прамову.

У гэтай сваей прамове ў сталіцы „Заходніх Крэсаў“ Польскае Рэспублікі пан Прэзыдэнт тады сказаў, што ён павінен прымусіць усіх, каб зразумелі, што ў Шлёнску *перамог* ніхто іншы, як іменна *працоўны народ*, які астаўся верным сваей Бацькаўшчыне (Польшчы), *трымаючыся сваей веры і мовы, і сваей воляй* прымусіў дзяржавы Заходу прызнаць бязумоўна сваёй Бацькаўшчыне (Польшчы) тую тэрыторыю, ня якой мы цяпер стаім...

Пан Прэзыдэнт гаварыў, што польскі народ „мае сваю нацыянальную амбіцыю, зьверненую як на ўсход, так і на заход“.

Высокі прамоўца заклікаў каранных мясцовых жыхароў Шлёнску бараніць гэтую сваю веру, мову, волю і нацыянальную амбіцыю і даць належны адпор тэй „нацыі“ якая акружыла нас (палякаў) з заходу, якая глыбака ўгрызлася ў нашыя (польскія) землі і сілаю гвалтаў і моцай „podstępnej kultury“ адарвала нашыя (польскія) землі ад нашае Бацькаўшчыны (Польшчы).

„Наш Сьцяг“ тады пісаў:

„Мы, беларусы, прагавіта ў захапленьні ловячы тут кожнае мэтнае палкае слова высокага аўтора, можам пажадаць толькі аднаго: каб усе гэтыя пекныя мысьлі, палкія словы аб правох нацыянальнасьцяў на сваей тэрыторыі, хоць-бы 700 гадоў належачай да другой нацыянальнай дзяржавы, змагацца за сваю веру, мову і незалежнасьць роднай зямлі—проці варожай і „podstępnej“ культуры ўсімі срэдствамі, ня страцілі ні сваей сьвежасьці, ні сваей сілы, калі перанясьці іх... на некалькі градусаў усходняе даўжыні... з Катавіц хоць-бы ў Горадзеншчыну або ў Віленшчыну, ні свае праўдзівасьці пры застасаваньні іх да беларускага народу“...

Бо ня можна шляхэтнаму чалавеку адмаўляць і беларускаму народу на яго роднай зямлі гэткіх самых правоў на волю, веру, мову і—нацыянальную амбіцыю.

„Наш Сьцяг“ тады пісаў, што беларускі народ быў-бы шчасьлівы, калі-б пан Войцехоўскі, якога беларусы праз сваіх паслоў разам з усімі паслямі і сэнатарамі польскае дэмакратыі і нацыянальных меншасьцяў—супраць галасоў вялікшае паловы кіруючае цяпер Польшчай „большасьці“ ў Сойме — выбіраў і выбраў за Прэзыдэнта Рэспублікі,—калі-б гэты самы пан Войцехоўскі, будучы некалі ў Вільні, паўтарыў—mutato mutando (зьмяніўшы, што трэба)—сваю пекную катавіцкую прамову і ў сталіцы „Усходніх Крэсаў“ Польскае Рэспублікі, дзе беларускі народ, адвечны гаспадар гэтае зямлі, іграе такую-ж самую ролю, якую народ польскі іграў і іграе на Шлёнску...

„Вольны Сьцяг“ можа толькі горача далучыцца да таго справядлівага пажаданьня, якое тады—тры месяцы таму назад—высказаў яго папярэднік, „Наш Сьцяг“.

## Забастоука на тартаку Жардэлі.

Мы свaечасна паведамлялі аб гераічнай барацьбе работнікаў тартаку Жардэлі з вызыскам адміністрацыі. Прыводзім падробнасьці гэтай барацьбы, згодна з заметкай у № 276 „Robotnika“:

„12 верасьня распачалася забастоўка на тартаку Жардэлі, Валожынскага пав., Вішнеўскай гміны, уласнасьці п. Цырынскага. Работнікі ў ліку 150 чал. выставілі дамаганьні: прызнаньне Саюзу, як Вішнеўскага аддзелу з цэнтрам у Вільні і ўрэгуляваньня ставак, паводле віленскага цэньніка. Калі адміністрацыя тартаку ня згодзілася на падпісаньне ўмовы, а наадварот, **не даючы прыбаўкі, каб запужаць работнікаў, паменшыла іх дасюлешнія з работкі**, распачалася забастоўка. Саюз работнікаў пастанавіў выслаць да Вільні свайго старшыню для выясненьня сітуацыі—але **яго арыштавалі**.

Адміністрацыя тартаку выклікала з Вішнева паліцыю з камэндантам пастарунку на чале. Паліцыя перш вела сябе досыць прызваіта, але пасьля, вярнуўшыся, як здаецца п'янымі, пачала ад імя адміністрацыі заклі-

